ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№43 (2549)

23 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

НАВАГРУДАК — КАЛЫСКА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## ПАМІЖ РОДНАЙ КРАСЫ



Адсюль, з самага высокага месца ў Навагрудку, адкрываецца бязмежная далячынь, непаўторная ў сваёй ціхай беларускай красе. Узгоркі, укрытыя сінімі лясамі, смуга над імі лёгенька трымціць. Палі ўперамежку з лясамі збягаюць з узгорка на ўзгорак, і гэты пейзаж, такі прыемны, там, каля Нёмана, здаецца, зліваецца з блакітным небам. Яно чыстае, высокае, ласкавае. А хаты ў вёсках, што рассыпаліся па ўзгорках і нізінах, выдаюцца такімі маленькімі, як цацкі.

**НА ЗДЫМКУ: фарны касцёл і від на мінскую дарогу.**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ТАРАН ПОМСТЫ Мікалая БЛАГІНА

## АПОШНІ ПАЛЁТ

Ідэя пабудаваць самалёт-гігант нарадзілася ў кастрычніку 1932 года ў сувязі з 40-гадовым юбілеем літаратурнай і грамадскай дзейнасці Максіма Горкага. Ініцыятарам яе быў вядомы журналіст Міхаіл Кальцоў. У тыя гады Сталін паддобрываўся ў сваіх кан'юнктурных інтарэсах да "вялікага пралетарскага пісьменніка" і ідэю падтрымаў. Пад уплывам першага намесніка наркома М. Тухачэўскага ён пачаў праяўляць павышаную цікавасць да авіяцыі, якая бурна развівалася ва ўсіх краінах Еўропы. Міхаіл Кальцоў арганізаваў усенародны збор сродкаў на будаўніцтва самалёта-гіганта праз газету "Правда" і радыё. За кароткі тэрмін удалося сабраць 6 мільёнаў рублёў, што па тых часах складала вельмі значную суму.

Работа была пачата 4 ліпеня 1933 года, а 3 красавіка 1934 года, усяго праз 10 месяцаў, разабраўшы каменную кладку сцяны заводскага цэха (гэты цэх захаваўся), інжынеры і рабочыя дружна выкацілі самалёт "Максім Горкі" на бетонныя пліты Хадынскага аэрадрома.

24 красавіка спецыяльная урадавая камісія прыняла самалёт. 17 чэрвеня 1934 года лётчык-выпрабавальнік М. Громаў упершыню падняў велікі лятальны апарат у паветра. Самалёт добра слухаўся рулёў, быў устойлівы ў палёце і праз два дні, у час сустрэчы чэлюскінцаў, зрабіў урачысты палёт над Краснай плошчай у суправаджэнні знішчальнікаў, якія побач з гігантам, што гудзеў усімі васьмю маторамі, здаваліся цацачнымі.

Замежныя журналісты, якія здзейснілі палёт над Масквой, падрабязна апісалі ўнутраную і знешнюю канструкцыю самалёта, пасажырскі салон, асобныя салоны з "празрыстай падлогай", буфет, цэнтральную тэлефонную станцыю, кінаўстаноўку, друкарню, якая выпускала малатыражную газету тут жа ў палёце, фоталабараторыю, пнеўмапошту, радыёстудыю і туалет. Акрамя 8 членаў экіпажа, самалёт мог браць на борт 72 пасажыры, што было рэкордным паказчыкам для данага класа самалётаў. Адзначалася і тое, што ўпершыню ў нас на пасажырскім самалёце быў устаноўлены аўтапілот айчыннай канструкцыі. Кіраванне самалётам было двайное (дубліраванае). На самалёце было 14 паліўных бакаў. Рухавікі запускаліся сціснутым паветрам. Маса пустога самалёта раўнялася 28,5 тоны.

Аднак замежныя журналісты не ведалі, што "Максім Горкі" ў выпадку неабходнасці можна было хутка пераабсталяваць у цяжкі "ШКАС".

На жаль, "Максім Горкі" праіснаваў нядоўга. У небе над Масквой адбылася страшная катастрофа...

З афіцыйнага паведамлення ТАСС:

"18 мая 1935 года ў 12 гадзін 45 мінут у горадзе Маскве, у раёне Цэнтральнага аэрадрома (Хадынскае поле), — адбылася катастрофа з самалётам "Максім Горкі".

Катастрофа адбылася пры наступных акалічнасцях. Самалёт "Максім Горкі" рабіў палёт пад кіраваннем лётчыка ЦАГІ т. Журава, меў на борце ўдарнікаў ЦАГІ ў колькасці 50 чалавек. У гэтым палёце "Максім Горкі" суправаджаў трэніровачны самалёт ЦАГІ пад кіраваннем лётчыка Благіна. Нягледзячы на катэгарычную забарону рабіць якія б там ні было фігуры вышэйшага пілатажу ў час суправаджэння, лётчык Благін парушыў гэты загад і стаў рабіць фігуры вышэйшага пілатажу ў непасрэднай блізкасці ад самалёта "Максім Горкі" на вышыні 700 метраў.

Пры выхадзе з мёртвай пятлі лётчык Благін сваім самалётам ударыў у крыло самалёта "Максім Горкі".

Самалёт "Максім Горкі", у выніку атрыманых пашкоджанняў ад удару трэніровачнага самалёта, стаў разбівацца ў паветры, перайшоў у піке і асобнымі часткамі ўпаў на зямлю ў пасёлку Сокал у раёне аэрадрома.

Пры катастрофе загінула 11 чалавек экіпажа самалёта "Максім Горкі" і 36 чалавек пасажыраў-ударнікаў з інжынераў, тэхнікаў і рабочых ЦАГІ, у ліку якіх было некалькі членаў іх сямей. Пры сутыкненні загінуў таксама лётчык Благін, які пілатаваў трэніровачны самалёт.

Пахаванне загінуўшых прынята на дзяржаўны кошт і адбудзецца 20 мая г. г.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПРАБЛЕМЫ РЭСТАЎРАЦЫІ

## «УДЫХНУЦЬ ЖЫЦЦЁ» Ў СТАРЫЯ ПАБУДОВЫ

**Гістарычнай часткі Мінска не пашанцавала: спачатку вайна, якая ператварыла горад у суцэльныя руіны, потым раптоўна знесеная Няміга. Стары квартал бязлітасна змяшалі з зямлёй. Сёння ж дамы, што засталіся, збіраюцца па цагліне, і энтузіясты з грамадскіх арганізацый гатовы гадзінамі спрачацца з рэстаўратарамі за дакладнасць узнаўлення кожнага сантыметра гістарычнага мінулага.**

У Дзяржаўным камітэце па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў стан, у якім знаходзяцца гістарычныя будынкі Мінска, ацэньваюць як нездавальняючы. На сёння маецца падрабязная навуковая распрацоўка толькі па адной, так званай, Саборнай часткі Верхняга горада. Што тычыцца, напрыклад, яго грамадскай часткі, то тут будынкі абнавілі і падфарбавалі да юбілею горада, але наўрад ці хто-небудзь сёння паручыцца, што пры гэтых работах прытрымліваліся тэхналогіі і менш чым праз год не давядзецца ўсё паўтарыць. Рамонтныя работы часта вядуцца без уліку гістарычных рэалій, лічыцца магчымым на аб'ектах, якія маюць досыць высокую катэгорыю аховы, выкарыстоўваць палі-хлорвініл і іншыя матэрыялы, якія яшчэ не былі вядомыя, скажам, у канцы XVIII стагоддзя.

На сёння завершана аднаўленне будынкаў па вуліцы Інтэрнацыянальнай на ўчастку ад плошчы Свабоды да рэстарана "Журавінка", завяршаюцца праектныя работы па рэстаўрацыі комплексу будынкаў на плошчы Свабоды, які мяркуецца надаць першапачатковы выгляд: сто гадоў назад там быў гасціны двор з невялікімі крамамі, карчмой. Там жа будзе ўзноўлена гарадская ратуша і царква Святога Духа, з боку вуліцы Гандлёвай забудова будзе папоўнена прадпрыемствамі грамадскага значэння — кафэ, крамамі, барамі. Такім чынам гарадскія ўлады плануюць "удыхнуць жыццё" ў Верхні горад, дзе сёння на першых паверхах будынкаў размешчаны толькі офісы, канторы і фірмы, што, у сваю чаргу, абумоўлена беднасцю бюджэту, якая вымушае горад расставацца з самымі прывабным памяшканнямі дзеля атрымання арэнднай платы. Іншымі словамі, планы па рэканструкцыі і рэстаўрацыі маюцца, пытанне толькі ў тым, дзе ўзяць сродкі на іх рэалізацыю.

Першым пробліскам у вырашэнні гэтай праблемы стаў дом нумар 10 па Віцебскай вуліцы, дзе фірмай "Трайпл" быў аднойлены помнік архітэктуры, з якога быў зроблены піўны рэстаран на 400 пасадачных месцаў. У размешчанага ў зручным месцы старога будынка аказалася багатае мінулае, і за больш чым векавую гісторыю там размяшчаліся лазня, ліцейны цэх, піларама, якая вібрацыяй давяршыла разбурэнне дома. Такая жорсткая эксплуатацыя прывяла гістарычны помнік у поўную непрыгоднасць, і ўзнаўленню ён не падлягаў. Аднак намаганнямі групы архітэктара Сяргея Багласава будынак захаваў тое аблічча, якое яму надалі ў 1889 годзе. У архіве былі знойдзены даныя па гэтаму аб'екту, яго першапачатковыя чарцяжы, унікальныя ўзгадненні, пачынаючы ад подпісу былога губернатара Мінска князя Трубецкога да дазволаў губернскага архітэктара і губернскага інжынера. Па гэтых чарцяжах і тым, што засталося ад дома на момант пакупкі, было адбудавана новае памяшканне, максімальна прыбліжанае да арыгінала. У аўстрыйскай фірмы "Салем", якая сёння з'яўляецца прызнаным заканадаўцам у вырабе міні-піваварняў, была закуплена ўстаноўка па варцы піва, размешчаная непасрэдна ў зале рэстарана. Па словах супрацоўнікаў фірмы, менавіта тое, што будынак выкуплены і з'яўляецца ўласнасцю фірмы, стала галоў-

**НА ЗДЫМКУ: рэстаран-піваварня "Ракаўскі бровар".**

(Заканчэнне на 3-й стар.).



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПЕРШЫ З МНОГІХ



13 кастрычніка ў пасёлку Лясное, што пад Мінскам, адбылося ўрачыстае адкрыццё Рэспубліканскага цэнтра дзіцячай анкалогіі і гематалогіі. У адкрыцці цэнтра прыняў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

З уводам у эксплуатацыю новага цэнтра з'явіўся шанц, што ў яго сценах змогуць вылечыцца дзеці, якія раней былі б асуджаны на гібель. Да таго ж тут створаны ўсе ўмовы не толькі для практычнай медыцыны, але і для правядзення навуковых даследаванняў, што ў канчатковым выніку будзе садзейнічаць дасягненню яшчэ большых поспехаў у айчыннай ахове здароўя. Прэзідэнт краіны пажадаў бацькам хворых дзяцей не губляць веры ў тое, што дзеці вылечацца, і паабяцаў, што кіраўніцтва Беларусі прыкладзе максімум намаганняў для таго, каб захаваць здароўе і жыцці нашых маленькіх сугрperiod"Мы будзем рабіць усё, каб такія цэнтры з'явіліся ў нашай рэспубліцы ўсюды", — сказаў Аляксандр Лукашэнка. Ён адзначыў, што набыты пры будаўніцтве анкагематалагічнага цэнтра каштоўны вопыт будзе выкарыстаны і пры ўзвядзенні іншых медыцынскіх устаноў.

НА ЗДЫМКУ: цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## АМЕРЫКАНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Асноўнай падзеяй апошняга дня работы дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на 52-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН стаў прыём ад імя кіраўніка нашай дэлегацыі міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча ў гонар старшыні цяперашняй сесіі Генадзя Удавенкі і Генеральнага сакратара ААН Кофі Анана. Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе знешнепалітычнага ведамства нашай рэспублікі, на прыёме таксама прысутнічалі міністры замежных спраў Казахстана і Кубы, паслы дзяржаў — пастаянных членаў Савета бяспекі ААН — Расіі, Кітая, Францыі, ЗША і шэрагу іншых краін свету.

У ходзе гутаркі адбыўся абмен думкамі адносна перспектыў узаемадзеяння Беларусі з буйнейшымі дзяржавамі — членамі ААН. Акрамя таго, бакі абмеркавалі актуальныя пытанні рэфармавання арганізацыі і ролі Беларусі ў гэтым працэсе, а таксама шэраг іншых праблем, якія маюць узаемную цікавасць.

У час знаходжання ў Злучаных Штатах кіраўнік беларускай дыпламатыі даў інтэрв'ю тэлерадыёкампаніі "Блумберг".

Іван Антановіч сустрэўся з карэспандэнтамі вядучых інфармацыйных агенцтваў ЗША Сі-эн-эн, Эй-бі-сі, Этнік Амерыкэн Бродкастынг Тэлевіжн, а таксама быў прыняты намеснікам Генеральнага сакратара ААН па эканамічных і сацыяльных пытаннях Ніцінам Дэсаі.

8 кастрычніка кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства адправіўся ў Вашынгтон. Тут адбыліся яго сустрэчы з прадстаўнікамі Дзяржаўнага дэпартамента і міністэрства абароны ЗША.

«ІЛАНА» САДЖАЕ ЛЕС



Адна з апошніх распрацовак аб'яднання "Гомсельмаш" — лесапасадачная машына "Ілана" з аўтаматычнай падачай саджанцаў. За адну гадзіну работы ёю можна зрабіць пасадку на адлегласці да чатырох кіламетраў. Выпрабаванні машыны спецыялісты Інстытута лесу Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь праводзяць на адселеных пасля чарнобыльскай аварыі ўчастках Веткаўскага раёна.

НА ЗДЫМКУ: лесапасадачная машына "Ілана" за працай.

«АРКА ЕЎРОПЫ»

## ТРЭЦЯЯ ЎЗНАГАРОДА «БЕЛАРУСЬКАЛІЯ»

Прэстыжную міжнародную ўзнагароду "Арка Еўропы" атрымала вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій" — ёю адзначаюцца прадпрыемствы, што выпускаюць прадукцыю высокай якасці. Раней за добрыя спажывецкія якасці калійных угнаенняў салігорцам прысуджаліся Залатая і Брыльянтавая зоркі якасці. З пачатку гэтага года прададзена 2,5 мільёна тон угнаенняў — на чвэрць больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. На 30 працэнтаў узрос экспарт калія ў далёкае замежжа, на 10 — у краіны СНД.

У ХУТКІМ ЧАСЕ

## «БЕЛОСТ» — ДЗЕЦЯМ

У бліжэйшы час у Віцебскай вобласці асацыяцыя "Белаграсервіс" адкрые завод па вытворчасці дзіцячага харчавання. Мяркуецца, што новае прадпрыемства дазволіць ліквідаваць недахоп дзіцячага харчавання ў рэспубліцы. Завод поўнасцю аснашчаны італьянскім абсталяваннем, сёння змантавана першая лінія коштам 3,5 мільёна долараў. Кошт усяго комплексу складае 5,5 мільёна долараў. На заводзе ўстаноўлена абсталяванне для першаснай апрацоўкі, якое дазваляе фасаваць базавыя кампаненты для вырабу харчавання і кандытарскай прамысловасці ў спецыяльныя антысептычныя мяшкі. Сёння ўжо ўстаноўлены лініі па перапрацоўцы морквы, яблыкаў і ягад. Мяркуецца выкарыстоўваць сыравіну з раёнаў, што найменш падвергліся радыеактыўнаму заражэнню. Другая лінія, пуск якой намечаны на больш позні тэрмін, будзе выпускаць харчаванне, фасаванае ў шкляную тару.

Адміністрацыйны дырэктар беларуска-італьянскага сумеснага прадпрыемства "Белост" Юрый Кулікоў заўважыў, што пуск завода дазволіць істотна знізіць цану на дзіцячае харчаванне ў рэспубліцы, "паколькі мы не бралі дзяржаўных крэдытаў, вырэзанне якіх сур'ёзна ўплывае на сабекошт прадукцыі, адсутнічаюць пошліны і транспартныя расходы". Кіраўніцтва фірмы спадзяецца, што пуск другой лініі — таксама не за гарамі.

АРШАНСКІ ЛЁН

## У КАТАЛОГ СУСВЕТНАЙ МОДЫ

У Каталог сусветнай моды ўнесена летняя калекцыя жаночага адзення з тканін Аршанскага льнокамбіната. Гэта адбылося ў выніку іх паказу на нядаўнім Фестывалі міжнароднай моды ў Дзюсельдорфе. Поспех суkenак і касцюмаў — гэта заслуга спецыялістаў Беларускага цэнтра моды, якія стварылі цэлы шэраг арыгінальных калекцый. Не толькі немцы, але і прадстаўнікі 30 іншых краін высока ацанілі вырабы з беларускага льну.

СУМНЫ ЮБІЛЕЙ



У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў юбілейны вечар дырэктара тэатра Івана Вашкевіча з нагоды яго шасцідзесяцігоддзя.

Дзіўны юбілей адбыўся ў Івана Іванавіча: у той час, як намеснік міністра віншаваў Вашкевіча з 60-годдзем, з таго ж Міністэрства культуры прыйшоў загад аб звальненні І. Вашкевіча з займаемай пасады... за дрэнную работу.

НА ЗДЫМКУ: юбіляра віншуе намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір РЫЛАТКА.

З РУК ПАТРЫЯРХА

## ЗА СПРАВЫ МІЛАСЭРНАСЦІ

Аўтар больш як 30 папулярных кніг, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", нязменны кіраўнік Беларускага дзіцячага фонду на працягу дзесяці гадоў, арганізатар рэспубліканскіх фестываляў гумару ў Аўцюках Уладзімір Ліпскі атрымаў з рук Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II Ордэн святога Благавернага царэвіча Дзімітрыя Маскоўскага і Угліцкага "За справы міласэрнасці". Ордэн заснаваны Маскоўскім Патрыярхатам і Расійскім дзіцячым фондам. Гэта ўзнагарода прысуджаецца тым, хто ўнёс "асабліва вялікі ўклад у справу апекі і абароны пакутных дзяцей".

СЕНСАЦЫЯ

## КРЫМІНАЛ У «РАССВЕЦЕ»

За фінансава-гаспадарчыя парушэнні законаў Рэспублікі Беларусь узбуджана крымінальная справа супраць шэрагу службовых асоб акцыянернага таварыства "Аграпрамысловае аб'яднанне "Рассвет" Кіраўскага раёна.

Старшыня былога праслаўленага калгаса "Рассвет" імя Кірылы Арлоўскага, а цяперашні кіраўнік вышэйпамянёнага акцыянернага таварыства двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў зняты з пасады.

ЭКАЛОГІЯ СТАЛІЦЫ

## МІНСКІЯ ПУСТКІ

Спецыялізаванаму арэнднаму прадпрыемству "Мінскзеленбуд" дадаткова перададзена 1 700 гектараў пустак — безгаспадарчых гарадскіх тэрыторый. Як правіла, гэта шматлікія сталічныя навабудоўлі і землі, што раней знаходзіліся ў распараджэнні прамысловых прадпрыемстваў.

Мінск па праву лічыцца адным з самых зялёных гарадоў Еўропы, аднак плаціць за гэты імідж даводзіцца даволі дорага. Напрыклад, гадавое ўтрыманне аднаго гектара зялёных насаджэнняў абыходзіцца прыкладна ў 40 мільёнаў рублёў. А агульны бюджэт АП "Мінскзеленбуд" у гэтым годзе склаў 180 мільярдаў рублёў.

ПАЖАР



На рэспубліканскай нафтабазе ў Фаніпалі загарэлася ёмістасць з бензінам. Пажарнікі і тэхніка, якія прыбылі на месца здарэння з Мінска і бліжэйшых раёнаў Мінскай вобласці, змагаліся з вогненнай стыхіяй амаль паўтары гадзіны, але не дапусцілі, каб агонь перакінуўся на суседнія 15 ёмістасцей.

АДРАДЖЭННЕ ДУХОЎНАСЦІ

## СВЯТА-ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА

На Пакровы Прасвятой Багародзіцы 14 кастрычніка ў 13 гадзін у Мінску адбыўся малебен і закладка каменя ў фундамент Свята-Пакроўскай царквы.

У 1612 годзе на крыніцах гаючай вады ля вёскі Крупцы, што пад Мінскам, было ўяўленне цудатворнай іконы Крупцоўскай Божай маці — адной з трох цудатворных ікон Беларусі... Гэтая ікона, на жаль, бясследна знікла ў гады мінулай вайны. Свята-Пакроўская царква праіснавала да 1936 года — пакуль яе не знеслі.

У 1991 годзе сталі праводзіцца богаслужэнні на крыніцах. Было пабудавана часовае памяшканне храма.

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі правёў малебен і заклаў капсулу з граматай у падмурак Свята-Пакроўскай царквы.

# «УДЫХНУЦЬ ЖЫЦЦЁ» Ў СТАРЫЯ ПАБУДОВЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ным фактарам яго ўзнаўлення ў рэкордна кароткі тэрмін. Дагавор куплі-продажу быў афармлены ў верасні мінулага года, а да свята горада 3 ліпеня тут ужо прымалі гасцей. Сёння, натхнёная ўдалым вопытам, фірма набыла яшчэ адно, размешчанае непадалёку старое памяшканне, якое маркуецца зблакіраваць з ужо адрэстаўрыраваным і стварыць там гасцініцу на 36—40 месцаў 3—4-зоркавага еўрапейскага ўзроўню. І яшчэ адна дэталь: акрамя будынка, фірма рэстаўрыравала і пашырыла на паўтара метра ўсю Віцебскую вуліцу, на якой размешчаны рэстаран, былі заменены ўсе старыя цепласеткі, пліткай выкладзены пешаходныя тратуары, і ўзноўлены прылеглы сквер.

Сваю дзейнасць па рэстаўрацыі Верхняга горада фірма "Білім" пачала яшчэ ў 1994 годзе, калі праз акцыянернае таварыства "Стары Менск" узяло ў субарэнду некалькі будынкаў у Верхнім горадзе. Аднак гэты шлях аказаўся малаэфектыўным, бо грошы на рахунак "Старога Менска" пераводзіліся спраўна, у той час як работа стаяла на месцы. Акрамя таго, грошы ішлі і за так званы тэхнічны нагляд, набягала значная сума. Незадаволеная такім супрацоўніцтвам фірма была вымушана звярнуцца ў Мінгарвыканкам з просьбай прадаць ёй канструкцыі гэтых будынкаў, і з 1 студзеня 1997 года некалькі дамоў у Верхнім горадзе сталі ўласнасцю "Біліма".

Паколькі размова ідзе аб гістарычнай частцы горада, прызначаны навуковы кіраўнік аб'екта, які сочыць за тым, каб аблічча будынкаў, якія рэканструююцца, адпавядала духу канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. У лік далевага ўдзелу ў развіцці горада "Білім" добраўпарадкаваў участак *гарадской тэрыторыі*.

Паміж рэстаўрацыйнымі работамі і звычайным капітальным будаўніцтвам — вялікая розніца. Напрыклад, у рэканструяваным доме нумар 2 па вуліцы Герцэна няма ніводнай новай цагліны, хаця ў пачатку работ будынак знаходзіўся ў жалю годным стане. Была знойдзена сцяна такога ж узросту, як і паўразбураны дом, яе разабралі па цаглінцы, потым кожную з іх адчышчалі наждачнай паперай і ўстаўлялі на месца "прабоін". Пасля гэтага кладка прамазвалася заказаным з такой нагоды ў Францыі спецыяльным растворам. Для далейшых работ выкарыстоўваецца цэгла, якую вырабляюць у Віцебскай вобласці для будаўніцтва храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве, адаптаваныя да нашай зімы фінскія фарбы, іспанская плітка. Рэстаўрацыйныя работы, якія праводзіць фірма "Білім", былі станоўча адзначаны дэлегацыяй Савета Еўропы, якая наведала Мінск. Словам, ёсць надзея, што Верхні горад не ператворыцца ў падобны Траецкаму прадмесцю квартал "пад даўніну", які ў народзе сёння любоўна называюць "нашым Галівудам". І нягледзячы на тое, што Траецкае прадмесце было адбудавана ў сямідзесятыя гады нашага стагоддзя, сёння яно выглядае ледзь ці не гэтак жа, як Верхні горад, які мае патрэбу ў рэстаўрацыі...

Зусім побач з дамамі, аб якіх ішла размова, стаяць будынкі, што адрэстаўрыраваны ўжо памянёным акцыянерным таварыствам "Стары Менск". І ўсё было б добра, радавалі б яны і далей вока недасведчанага непрафесіянала, калі б не акуратныя забудовы, што ўзнікаюць пад бокам. На іх фоне неяк адразу сталі кідацца ў вочы няроўна атынкаваныя і аблезлыя сцены, чарапіца, якая асыпаецца, што недвухсэнсоўна гавораць аб якасці матэрыялаў, кваліфікацыі спецыялістаў і рабоце службы заказчыка.

Акцыянернае таварыства "Стары Менск" было створана ў пачатку 90-х Гарвыканкамам, каб прыцягнуць інвестыцыі да рэстаўрацыі гарадскіх будынкаў. У той час гэта было адзінае выйсце, бо тады ідэя прадаць будынкі Верхняга горада прыватным структурам, якія ўзяліся б за яго рэстаўрацыю, была б успрынята прыкладна гэтак жа, як сёння прапанова перадаць зямлю ў прыватную ўласнасць. Асноўнай мэтай акцыянернага таварыства быў пошук інвестараў, згодных даць грошы на рэстаўрацыю старых будынкаў у абмен на права доўгатэрміновай арэнды, і падрадчыкаў, якія б гэтыя дамы рэстаўрыравалі. Аднак сёння складана знайсці жадаючых укладваць сур'ёзныя сродкі ў аднаўленне будынкаў, якія не з'яўляюцца іх уласнасцю. І, праўда, хто сёння можа даць гарантыі, што адрэстаўрыраваны і адрамантаваны будынак у цэнтры горада не спадабаецца ўладам, і тады занадта смеламу прадпрымальніку застанецца толькі выставіць пікет каля помніка гісторыі канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў.

Вопыт "Трайпла" і "Біліма", якія, атрымаўшы ва ўласнасць будынкі, рэстаўрыруюць іх ударнымі тэмпамі з высокай якасцю, — лепшы прыклад таго, як хутка мяняецца аблічча пабудоў, аддадзеных ва ўласнасць прыватнай фірме. На чарзе — дамы па вуліцах Камсамольскай і Рэвалюцыйнай, якія стаялі пустымі ўжо некалькі гадоў, і толькі пасля таго, як яны нядаўна былі прададзены на аўкцыёне, там пачынаюцца рэстаўрацыйныя работы.

На пытанні, якія гарадскія аб'екты рэстаўрыруюцца ў першую чаргу і ці ёсць увогуле план, што вызначае гэтую чарговасць, начальнік аддзела гістарычнай забудовы і гарадскога дызайна Камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкома Анатоль Кухарэнка адказаў, што такога, на жаль, няма, бо з бюджэту грошай на рэстаўрацыю і рэканструкцыю горада не паступае, і ўсё залежыць ад таго, як абернецца "Стары Менск" і ці знойдуцца жадаючыя ўкласці грошы ў аднаўленчыя работы. Улічваючы астранамічныя сумы, што атрымліваюцца за арэнду гарадскіх будынкаў, бадай, можна было б знайсці ў бюджэце сродкі на рэстаўрацыю дамоў — помнікаў гісторыі. А калі гэта немагчыма, то варта актыўней перадаваць дамы ва ўласнасць тым, хто можа выратаваць іх ад канчатковага разбурэння. Тым больш, што гэта — прынятая ва ўсім свеце практыка. У Польшчы, напрыклад, дзяржава дае толькі 30 працэнтаў ад сумы, неабходнай на ўзнаўленне і рэканструкцыю будынкаў, астатняе робіцца за кошт прыватнага капіталу. Аднак да дзейнасці "Біліма" і "Трайпла" ў Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі гістарычных помнікаў таксама ёсць вельмі істотныя прэтэнзіі: будынак па вуліцы Віцебскай, 10, дзе знаходзіцца цяпер "Ракаўскі бровар", узноўлены не ў дакладнай адпаведнасці з яго гістарычным абліччам, дамы па вуліцы Герцэна таксама далёкія ад зацверджанага праекта. Па словах намесніка старшыні камітэта Ігара Чарняўскага, прыватныя фірмы прыстасоўваюць аб'екты пад свае патрэбы, не лічачыся з інтарэсамі гістарычнай забудовы. На яго думку, каб у стары горад пайшлі патокі турыстаў, яго аблічча павінна быць максімальна набліжаным да гістарычнага арыгінала. А каб гэтага дабіцца, трэба больш смела ісці на прыватызацыю будынкаў, дабіваючыся, каб суб'ект прыватызацыі выконваў усе палажэнні закона аб ахове помнікаў. І чым больш будзе жадаючых прыватызаваць будынкі, тым прасцей будзе гэтага дабіцца.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**НА ЗДЫМКУ: дом на вуліцы Герцэна, 2, адрэстаўрыраваны фірмай "Білім".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# АПОШНІ ПАЛЁТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Урадам вырашана выдаць сем'ям загінуўшых па 10 000 рублёў разавай дапамогі кожнай сям'і і ўстанавіць павышанае пенсійнае забеспячэнне. Утворана камісія па пахаванню ў складзе: Хрушчоў, Харламаў, Ткачоў"

З гэтых сухіх радкоў афіцыйнага паведамлення ТАСС вынікае, што катастрофа самалёта-гіганта адбылася выключна па віне "паветранага хулігана" Мікалая Благіна. Аднак пры гэтым, як лічаць многія старыя авіятары, тут прысутнічае нейкая тайна, да гэтага часу не раскрытая. Самае дзіўнае ў гісторыі гібелі "Максіма Горкага" пачалося пазней, праз чатыры месяцы пасля страшнай катастрофы.

Газета рускіх эмігрантаў "Адраджэнне", якая выходзіла ў Парыжы, у нумары ад 12 верасня 1935 года перадрукавала з польскай газеты "Меч" перадсмяротнае пісьмо Мікалая Благіна. Лётчык Мікалай Благін быў сынам патомнага віцебскага двараніна, палкоўніка царскай арміі і атрымаў добрую адукацыю. Летам 1920 года ён скончыў тэарэтычныя курсы авіяцыі пры дывізіёне паветраных караблёў "Ілья Мурамец", Маскоўскую школу авіяцыі і затым вышэйшую школу ваенлётаў.

У 1930 годзе ён стаў інструктарам І разраду ў Навукова-даследчым інстытуце ВПС РККА, а ў студзені 1932 года быў прыняты ў ЦАГІ вядучым лётчыкам-выпрабавальнікам пры ОБК А. Тупалева.

Па водгуках работнікаў ЦАГІ, Мікалай Благін лятаў на ўсіх тыпах самалётаў, быў цудоўным таварышам, любіў лётную работу і меў схільнасць да вынаходніцтва.

Благін правёў шэраг адказных выпрабаванняў авіяцыйнага ўзбраення і стартавых параходных паскаральнікаў цяжкага бамбардзіроўшчыка ТБ-1, што па тым часе было навінкай.

У рабоце ён вызначаўся сумленнасцю, эрудыцыяй і працавітасцю. Праўда, гэта не выратавала яго ад нядрэмнага вока НКУС, ён быў "пад каўпаком", і прыстаўлены да яго даносчык рэгулярна паведамляў "куды трэба" пра ўсе размовы Благіна. Работнікі ЦАГІ ведалі, што Благін быў незалежным у сваіх разважаннях і ацэнках і не любіў "палітычнай жвачкі"...

Пра перадсмяротнае пісьмо Благіна стала вядома нядаўна. Гэта вельмі цікавы дакумент. Вось яго поўны тэкст:

"Браты і сёстры! Вы жывяце ў краіне, заражанай камуністычнай чумой, дзе пануе чырвоны крывавы імперыялізм. Імем ВКП(б) (Усерасійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў) прыкрываюцца бандыты, забойцы, бадзягі, ідыёты, вар'яты, крэтыны і дэгенераты. І вы павінны несці гэты цяжкі крыж. Ніхто з вас не павінен забываць, што гэтая ВКП(б) азначае другое рабства.

Добра запомніце імёны гэтых узурпатараў, гэтых людзей, якія ўзялі на сябе клопат хваліць саміх сябе і якія называюць сябе мудрымі і любімымі народам. Ніхто з вас не павінен забываць голад, які лютаваў з 1921 па 1933 гады, у час якога елі не толькі сабак і катоў, але нават чалавечае мяса.

А ў гэты час камуністы арганізоўвалі таргсіны (магазіны для іншаземцаў з асобым асартыментам), каб пусціць пыл у вочы, гаворачы: "Глядзіце, як мы добра жывём!"

У гэтых таргсінах можна было купіць золата і імпартныя тавары за бясцэнак, але ўсё гэта было не для вас, браты і сёстры. У той час, як мы паміралі з голаду, бандыты-камуністы экспартавалі за мяжу нашу лепшую прадукцыю па самых нізкіх цэнах, для таго каб паказаць, што ў краіне Саветаў усё ідзе добра.

Браты і сёстры! Не забывайце, што значыць "усё ідзе добра" ў сапраўднасці. У той час, як у нас адбіралі апошнія сродкі ў выглядзе прымусовых пазык і г. д., бандыты-камуністы арганізоўвалі буйныя папойкі, танцавальныя вечары і дзікія оргіі з прастытуткамі і разбазаралі народныя мільёны.

Ніколі не забывайце гэтага, браты і сёстры! Не забывайце таксама і тое, чаму быў забіты бандыт Кіраў! Вам добра знаёмыя грымасы грабежніка-ўзурпатара Сталіна, Кагановіча, Дзімітрава і іншых камуністаў. Не забывайце аб тым, хто ў выпадку вайны павінен быць забіты ў першую чаргу!

Трэба будзе вызваць, каб вызваліцца ад ланцугоў рабства, ад цяжкай кабалы, ад крывавага бальшавізму і вар'ятаў-камуністаў.

Ніколі і нідзе ў свеце не будзе спакою да таго часу, пакуль камунізм, гэтая бацыла ў целе чалавецтва, не будзе знішчана да апошняга бальшавіцкага забойцы.

І калі гэтыя бандыты запэўніваюць свет аб тым, што не хочуць вайны, гэта нахабная хлусня. Камуністы выкарыстоўваюць кожную прадастаўленую ім магчымасць, каб выклікаць усюды хвалявання, разруху, голад і галечу! І калі яны не хочуць вайны, то толькі таму, што вельмі добра ведаюць, што гэта будзе іх апошняя бітва і што камунізм знікне з твару зямлі, як заразная бацыла.

Браты і сёстры! Помніце гэта і помсціце за сябе да апошняй кроплі крыві тым, хто выступае за Савецкі Саюз, якім кіруюць бандыты-камуністы!

Неабходна змагацца з камуністычнай заразай, выкарыстоўваючы ўсе ўласныя метады, г. зн. пракламацыі!

Браты і сёстры! Заўтра я павяду сваю крылатую машыну і пратараню самалёт, які носіць імя нягодніка Максіма Горкага!

Гэты аэраплан, пабудаваны на грошы, якія вас прымусілі аддаць, упадзе на вас! Але зразумейце, браты і сёстры, усялякаму цярпенню прыходзіць канец!

Перад тварам смерці я заяўляю, што ўсе камуністы і іх прыхвасні — па-за законам! Я хутка памру, але вы вечна помніце пра мсціўца Мікалая Благіна, які загінуў за рускі народ!

Масква, 17 мая 1935 года

Мікалай Благін, лётчык".

Рэдактар варшаўскай газеты "Меч" гарантаваў сапраўднасць пісьма. Больш таго, за некалькі дзён да здарэння па ўсёй Маскве ўпарта распаўсюджваліся чуткі, што Сталін мае намер заняць месца ў "Максіме Горкім" у кампаніі Молатава, Кагановіча, Арджанікідзе і іншых высокапастаўленых асоб. Сітуацыя напярэдадні палёту Благіна выглядала зусім рэальна, і задума Благіна, такім чынам, была лагічна абгрунтавана.

Для савецкіх людзей цэнзура спешна падганяла ўсю інфармацыю пад версію, зрабіўшы "казлом адпушчэння" Мікалая Благіна, які ўжо не мог сябе абараніць і апраўдацца перад грамадскасцю. Горкі лёс гэтага чалавека — быць абылганым на доўгія гады.

На пахаванні ахвяр паветранай катастрофы многія звярнулі ўвагу на дзіўную паблажку, праяўленую і да загінуўшага галоўнага вінаўніка страшнай катастрофы Мікалая Благіна: яго пахавалі разам з усімі на Навадзевічых могілках. Яго сям'і выплацілі разавую дапамогу і забяспечылі пенсіяй. Такое "сердабольнае" рашэнне маглі прыняць толькі "на самым версе", гэта значыць на ўзроўні ўрада. Гавораць, М. Хрушчоў званіў І. Сталіну і пытаўся: як быць з целам Благіна? Сталін пасля доўгай паўзы сказаў: "Хавайце разам з усімі" і паклаў трубку.

Пасля гібелі самалёта "Максім Горкі" было вырашана пабудаваць дублёр АНТ-20. Галоўны канструктар Андрэй Тупалеў унёс у канструкцыю шэраг паляпшэнняў, паставіў больш магутныя маторы. Яго выпрабаваў М. Громаў, потым ён жа перавозіў пасажыраў на аэраліні Масква — Мінеральныя Воды. У час вайны на ім транспартавалі грузы, пакуль у адным з рэйсаў у снежні 1942 года ён не разбіўся пры пасадцы...

Ветэраны-авіятары да гэтага часу з жалем і любоўю ўспамінаюць прыгажун "Максім Горкі". Ім некалі любавалася ўся краіна.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# КАНСТАНЦІН КАЛІНОЎСКІ І ЯГО НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Сёння можна сцвярджаць, што К. Каліноўскі займаў найбольш радыкальныя, непрымірымыя антысамадзяржаўныя і антыпамешчыцкія пазіцыі. Кіраўнікі паўстання абяцалі селяніну зямлю (не менш, як тры моргі, гэта значыць, больш як паўтара гектара на аднаго беззямельнага ўдзельніка паўстання) і асабістую свабоду. Радыкальная сацыяльная праграма К. Каліноўскага адвяла яму ў гісторыі грамадска-палітычнай думкі ганаровае месца. Больш радыкальнымі за яго — прытым толькі ў XX стагоддзі — аказаліся бальшавікі, якія павялі працоўныя масы на штурм старога свету, абяцаючы мір народам, зямлю сялянам і фабрыкі рабочым. Але не будзем згадваць, што з гэтых абяцанняў атрымалася на самай справе пазней.

К. Каліноўскі змагаўся за правы мужыка, за сацыяльную справядлівасць. Але лёс беларускага народа ён звязваў толькі з Польшчаю, дзе, на яго думку, павінен быў бы запанаваць найсправядлівейшы сацыяльны лад. "Ронд Польскі ўсім братнім народам дае самарондства", — так сказана ў адным з апошніх пасланняў К. Каліноўскага народу. Мы сёння, аднак, не можам не задумацца над тым, колькі ў яго ўяўленнях было сацыяльнай утопіі.

Праз 55 гадоў пасля студзеньскага паўстання, калі Польшча зноў стала незалежнай дзяржавай, гісторыя праверыла той шлях, на які клікаў беларускі народ К. Каліноўскі. Клікаў і добрым, шчырым словам, як адданы народны слуга, і крутым абяцаннем шыбеніцы, як непахісны ў сваіх перакананнях і ўяўленнях аб сваіх правах дыктатар. Шыбеніца прызначалася тым мужыкам, якія адважваліся б не прызнаваць сваёй прыналежнасці да "ронду польскага". Што ж датычыць беларускай нацыянальнай ідэі, то "Мужыцкая праўда", мабыць, не даведалася пра яе існаванне: ва ўсіх сямі нумарах газеты ні разу не знайшлося месца і аказіі для выкарыстання слоў "Беларусь", "беларус", "беларускі".

Пасля 1918 года ў Другой Рэчыпаспалітай — гэта мы ўжо ведаем з гісторыі — беларусы не знайшлі таго "самарондства" і тых правоў, якія К. Каліноўскі ад імя "ронду польскага" абяцаў ім. Хоць адроджаную дзяржаву ўзначальваў (з некаторым перапынкам) Ю. Пілсудскі, выхадзец з беларускай зямлі, які да таго ж ідэйна выхоўваўся ў найбольш прагрэсіўным — сацыялістычным — асяроддзі ды яшчэ паглыблена вывучаў гісторыю студзеньскага паўстання і прысвячаў яму спецыяльныя публікацыі.

Наогул сацыяльная праблема патрабуе спецыяльнай гаворкі з улікам усёй грамадска-палітычнай сітуацыі. Шмат што трэба сёння пераасэнсоўваць, і тут яшчэ непачаты край работы. У гэтай сувязі дазволю сабе прывесці пару выказванняў досыць дасведчаных людзей, да якіх нашы даследчыкі, здаецца, не звярталіся. Ю. Пілсудскі, напрыклад, сцвярджаў: "... Адмена прыгоннага ладу на ўсёй прасторы, ахопленай паўстаннем, забяспечыла сялянству матэрыяльны ўзровень значна вышэйшы, чым у карэннай Расіі. Калі, такім чынам, гаварыць пра змены ў сацыяльнай структуры велізарнай дзяржавы цароў, то паўстанне і неабходнасць канкурэнцыі з дэкрэтамі Нацыянальнага ўрада (польскага паўстанцкага. — **У. К.**) змянілі гэтую структуру ў значнай ступені больш сур'ёзна ў нас, чым у Расіі. Змаганне за душу селяніна і царская канкурэнцыя з традыцыямі паўстання праз увесь час панавання ў нас Расіі станавіліся надзвычай сур'ёзным фактарам палітычнага і грамадскага жыцця" ("Год 1863").

Цікавыя меркаванні на гэты конт і арыгінальныя фактычныя звесткі з апорай на першакрыніцы прыводзіць Міхайла Драгаманаў: "Аўтары прадстаўленай Герцэну дэкларацыі "ад цэнтральнага народнага польскага камітэта ў Варшаве" ("Колокол", 1 кастрычніка 1862) заявілі, што прызнаюць права сялян на зямлю, якую тыя апрацоўваюць (...). Аднак далей (...) аказалася, што надзел сялянскі, памер якога не быў вызначаны, — абяцаўся "на аснове выкупу". Але на гэтай аснове яшчэ раней прызначаны быў сялянам ва ўсіх заходніх правінцыях надзел "ад Цара", паводле Палажэння 19 лютага 1861. "Дэкрэт польскага рэвалюцыйнага ўрада, выдадзены ў духу дэкларацыі, змешчанай у "Колоколе", калі і мог быць дзе-небудзь карысным у параўнанні са status quo, дык гэта ў Царстве Польскім, — бо там зусім яшчэ не было прыдумана ні патрыётамі-памешчыкамі, ні ўрадам агульнай меры аб пераходзе надзелаў у сялянскую ўласнасць нават шляхам выкупу. Але тут гэты дэкрэт (...) даваў надзелы, вядома, з выплатай памешчыкам, толькі сялянам, якія сядзелі на зямлі; што ж датычыць беззямельных сялян і батракоў, то з іх павінны былі атрымаць надзелы толькі тыя, што паступяць у шэрагі паўстанцаў!! (...). Але, па падліках 1859 года, з 3 639 000 сельскага насельніцтва ў Царстве было пазямельных уласнікаў 6 працэнтаў (218 528, з якіх сялян 21 944); тых, што сядзелі на зямлі за паншчыну і чынш, — 55 працэнтаў і беззямельных 37 працэнтаў (...). На гэтыя 37 працэнтаў, г. зн. на 1 339 403 чалавекі, не пашыраліся карысці ад дэкрэта польскага рэвалюцыйнага ўрада. Рускі ўрад знайшоў потым для часткі з іх зямлі, толькі канфіскаваўшы манастырскія маёнткі, — на што рэвалюцыйны ўрад не адважваўся па той простай прычыне, што тады ён страціў бы падтрымку духавенства, на якую заўсёды разлічвалі самыя чырвоныя і самыя вальнадумныя польскія рэвалюцыянеры" (М. Драгаманов. "Герцен, Бакунин, Чернышевский и польский вопрос", с. 19—20).

Мы добра ведаем і надзейна засвоілі, што К. Каліноўскі быў палымяным рэвалюцыянерам, які без хістання аддаў сваё маладое жыццё ў змаганні за народнае шчасце. Гэта ён вучыў свой мужыцкі народ: "...Мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю — бо гэта зямля да нас належыць". "...Каб ніколі, ніякой, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі і каб на векі вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы". ("Мужыцкая праўда", № 2). "Мы сегодня ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваей зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паньшчыны не служыць, — калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці сваго краю тагды только, калі які непрыяцель надыйдзе, — калі робіць усенко, што спадабае і што не крыўдзіць блізняга і хвалы боскай... От што вольнасць значыць." ("Мужыцкая праўда", № 3).

Такое абяздолены беларускі мужык пачуў і прачытаў упершыню. І тут перад намі вялікая загадка гісторыі: чаму ён не паверыў заклікам і не падтрымаў змагароў за сваю свабоду? Няўжо яму не хацелася ні зямлі, ні волі? Няўжо яму не патрэбен быў "ронд", які клапаціўся б толькі і выключна пра народ?

Ці не таму мужыкі не давяралі ўсім заклікам, што бачылі рэальных паўстанцаў — тых паноў, бяспраўнымі нявольнікамі якіх з'яўляліся самі? Ці не сустракаліся ім паўстанцы, аднаго з якіх так каларытна абмаляваў Ю. Пілсудскі ў сваёй лекцыі "1863 год": "Вось стары воўк, стары ветэран трыццатага года (польскага паўстання 1830 года — **У. К.**), вядомы ў гісторыі Чахоўскі (але не той самы, з якім пазней лёс звёў маладога Янку Купалу. — **У. К.**), цвёрды чалавек, няшчадны ў адносінах да падначаленых, пры боку ў яго заўсёды бізун. Бізуном дамагаецца паслушэнства, трымае востра ў руках войска, прымушае да працы, няшчадны ў адносінах да сябе, няшчадны да ўсіх. (...). Да сціплых белых, белых не толькі паводле свайго знешняга выгляду двароў прыязджаючы, бізуном лупіў гаспадароў, загадваючы даваць паборы, караючы тых, хто працівіўся Нацыянальнаму ўраду. Бізуна з рук не выпускаў". Думаецца, не так цяжка сабе ўявіць, як да такога паўстанца павінен быў адносіцца звычайны беларускі мужык.

Мы сёння маглі б, бадай, сказаць: мужык быў цёмны, дурны, як варона, то што ён там мог зразумець? Але ўсё ж такі мы ўжо маем права і магчымасць уважліва паглядзець на рэальнае становішча. А тут ёсць над чым задумацца.

Адначасова і паралельна ў палемічных выступленнях той эпохі ўздымаліся і востра ставіліся праблемы **рэлігійныя.** А наогул пытанне стаяла так: хто мае законнае права — гістарычнае, этнаграфічнае, рэлігійнае — панаваць на нашай зямлі? Хто жыве на ёй: палякі ці рускія — па сваёй гісторыі, паходжанні, па веры, мове? І хто забяспечыць лепшую долю народу (каб прыцягнуць гэты народ на свой бок) — "ронд" польскі ці маскоўскі? Якія былі ўрокі гісторыі? Якой павінна быць вера мясцовых людзей? Ці нават так: якой веры яны могуць мець права прытрымлівацца? Ды ці маюць наогул яны права самі вырашаць, з кім яны жыць хацелі б: з палякамі ці з маскалямі?

Пры чытанні публіцыстыкі К. Каліноўскага месцамі ствараецца ўражанне, што для яго найгоршае зло на нашай зямлі — гэта існаванне сызмы (так католікі і уніяты называлі праваслаўе). Увесь шосты нумар "Мужыцкай праўды" дыхае пякучай нянавісцю да "сабачай веры" — праваслаўя.

Заяўляючы, што кожны праваслаўны "сегодня, як той сабака, жыве без веры і як сабака здохне чартам да пекла!!!", што "Бог найвыжшы" аддасць яго ў пекла "на вечныя мэнкі" і што будуць чэрці душу "на кускі рваці, а смала ў вантробах кіпеці будзе", К. Каліноўскі ўспрымаў найбольш змрочныя ідэі рэлігійнага фанатызму і неталерантнасці апошніх двух стагоддзяў колішняй Рэчыпаспалітай, у якой супраць праваслаўя вялася бязлітасная вайна на вынішчэнне і ліквідацыю.

Вось так К. Каліноўскі імкнуўся распальваць на нашай зямлі рэлігійную варожасць. Рабіў гэта ў асяроддзі народа, які спрадвеку славіўся рэлігійнай талерантнасцю, цярпімасцю да любой веры. І спроба адраджэння ў сярэдзіне XIX стагоддзя сярэдневяковага рэлігійнага цемрашальства была асуджана на правал. Ва ўмовах Беларусі інакш і быць не магло. А наогул не надта цяжка сабе ўявіць, як адчувалі б сябе праваслаўныя, калі б перамагло студзеньскае паўстанне.

У падзеях пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя звязваліся ў тугі вузел гістарычныя лёсы польскага, беларускага, літоўскага народаў. І разглядаць тыя падзеі якраз неабходна з улікам усіх абставін.

* * *

Некалькі слоў варта сказаць і пра само так званае "Пісьмо з-пад шыбеніцы". М. Біч разглядае абодва празаічныя і адзін паэтычны тэксты, апублікаваныя А. Гілерам пад адным загалоўкам, пад адной шапкай, як адзін твор: "Знаходзячыся ў турме і не маючы ніякіх ілюзій наконт свайго далейшага лёсу, К. Каліноўскі напісаў і перадаў на волю пісьмо ў трох частках". Больш дальнабачным аказаўся Г. Кісялёў, які асцярожна зазначыў: "Твор гэты часта называюць "Пісьмом з-пад шыбеніцы". Думаецца, што дакладней называць яго "Пісьмамі...", паколькі ён відавочна распадаецца на тры часткі. Ёсць падставы лічыць, што яны пісаліся паасобку і таксама паасобку дастаўляліся з-за кратаў на волю".

Цяжка, аднак, паверыць, што доўгае так званае "Пісьмо з-пад шыбеніцы" (першая частка) нарадзілася ў турме. Занадта вялікім яно з'яўляецца, шмат пытанняў у ім закранаецца, аўтарская думка і сістэма разважанняў разгортваецца паслядоўна, разважліва. Сам аўтар нідзе не гаворыць пра свой непазбежна трагічны лёс, як гэта мы бачым і ў вершы, і ў перадсмяротным пасланні, аўтограф якога захаваўся ў фондзе А. Гілера ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве на асобным лісціку паперы з уласнаручным подпісам Яські-гаспадара з-пад Вільні. Між тым у публікацыі А. Гілера ствараецца ўражанне, быццам абодва празаічныя пасланні і паэтычнае, змешчанае паміж імі, пісаліся падрад, можа нават на адной паперы, бо і загаловак у іх адзін.

А ці не магло здарыцца так, што першую частку К. Каліноўскі паспеў напісаць перад арыштам? Прытым з самога зместу паслання мы ніяк не даведваемся, каму яно адрасавалася. Нельга лічыць пераканаўчымі меркаванні, якія выказваюцца па гэтаму пытанню. У загалоўку А. Гілера сказана, што пісьмо адрасуецца "Да люду беларускага". Але ў першым сказе мы чытаем: "І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на Маскалёў і паўстане польскае..." Якая газетка ад "люду беларускага" "даляцела" да Каліноўскага і які "люд" меўся б надрукаваць тое пасланне? Даследчыкі досыць упэўнена пішуць, быццам "Пісьмо..." прызначалася для польскамоўнай газеты "Глос з Літвы". Аднак ці стаў бы К. Каліноўскі пісаць у польскую газету па-беларуску? І няма ўпэўненасці, што так выглядаў пачатак і канец самога "Пісьма..." Усе свае пасланні К. Каліноўскі пачынае зваротамі або да "дзецюкоў", або да Марыські чарнабрэвай, або да "братоў мужыкоў" і заканчвае сваім традыцыйным подпісам "Яська-гаспадар з-пад Вільні". А тут няма ні таго, ні другога. Чаму? Словам, тут пакуль што больш пытанняў, чым адказаў. І даследчыкам ёсць над чым задумацца.

Ці не здарылася так, што калі тыя тры розныя дакументы трапілі да А. Гілера, то ён аб'яднаў іх у адно цэлае, даўшы ад сябе агульны загаловак да ўсіх частак. Аднак празаічныя тэксты паміж сабою не стыкуюцца. Шукаючы адказу на тыя пытанні, варта было б уважліва перагарнуць увесь фонд А. Гілера.

У заключэнне вернемся да паведамлення аб тым, што К. Каліноўскі "браў на сябе дыктатуру". XX стагоддзе надало таму слову небывала злавесны сэнс. Забываюць пра гэта даследчыкі, якія ў магчымасці або жаданні К. Каліноўскага стаць дыктатарам бачаць росквіт беларускай нацыянальнай ідэі, нязздзейснены ратунак для нашай зямлі. А мы згадаем шосты нумар "Мужыцкай праўды" са спробай распальваць рэлігійныя канфлікты ў нашым краі, сеяць рэлігійную буру, адраджаць дзікія традыцыі Ясафата Кунцэвіча. Апрача гэтага былі ж яшчэ і "Прыказы..." з такім шчодрым абяцаннем шыбеніцы тым, каму было б не па дарозе з паўстанцамі. К. Каліноўскі паказаў, што мог бы цвёрдай рукою выкараняць любое іншадумства, прытым, мабыць, не толькі палітычнае, але і рэлігійнае.

Як тут не ўспомніць бальшавіцкія праграмы і максімум, і мінімум, бясконца самаахвярную барацьбу за народнае шчасце, за райскую будучыню працоўных горада і вёскі. Так і "Мужыцкая праўда" пярэдадня паўстання, хоць і ў другім, і ў шостым нумарах моцна фальшывіла, але ў цэлым успрымаецца як песня песняў у гонар свабоды, роўнасці і шчасця мужыка — таго мужыка, які гаворыць па-беларуску. Але рэвалюцыйная практыка перыяду паўстання прымушае ўздрыгнуцца чалавека, які ўжо ведае, як ажыццяўляліся яшчэ больш светлыя ідэі бальшавіцкай тэорыі або якое "самарондства" ў Другой Рэчыпаспалітай атрымалі "братнія народы" — беларусы і ўкраінцы.

* * *

Паражэнне паўстання 1863 года нанесла магутны ўдар па беларускай літаратуры, якая закладвала асновы для адраджэння беларускай нацыянальнай свядомасці. Яно рассеяла па імперыі і на эміграцыі найбольш свядомыя творчыя сілы народа. Царская адміністрацыя, абапіраючыся на магутнасць няшчаднай дзяржаўнай паліцэйска-чыноўніцка-рэлігійна-адукацыйна-культурнай машыны, стварала ўсе магчымыя перашкоды для зараджэння і развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці і культуры, якая ў апошнія дзесяцігоддзі перад гэтым, у сярэдзіне стагоддзя, пачала ўсё больш імкліва развівацца. Але затое нікім не прадбачаным вынікам паўстання з'явілася канчатковае і беспаваротнае спыненне наступлення працэсу паланізацыі. І непрыкметна пачалося ўсё больш выразнае — спачатку стыхійнае, а з цягам часу і мэтанакіраванае — адраджэнне беларускай нацыянальнай свядомасці, якое канчаткова аформілася і выкрышталізавалася ў праграмных заявах Францішка Багушэвіча. У выніку гістарычных працэсаў на рубяжы стагоддзяў ужо ніхто не адважыўся б назваць беларусаў палякамі.

* * *

У ацэнках нашай гісторыі — далёкай і блізкай — заўсёды хапала перакосаў. Хапае іх і сёння. Чаму? Многія дзесяцігоддзі нас надзвычай эфектыўна адвучвалі самастойна думаць. Калі хтосьці спрабаваў абвергнуць штосьці ўзаконенае, то людзі, якія не прызвычаіліся да самастойнасці, адразу маглі захваляваца: "А ў імя чаго?", "На чыю мельніцу вада льецца?", "На чый вятрак новы вецер дзьме?" І, як правіла, сама па сабе гістарычная праўда не надта такіх пытальшчыкаў цікавіла.

Быў час, калі найбольш баяліся, каб сацыялістычная вада не круціла жорны імперыялістычнай мельніцы, каб не працавала на ЦРУ. Сёння для некаторых не менш страшнай з'яўляецца мельніца маскоўская. Мне, аднак, хацелася б задаць стрэчнае пытанне: "А чыё збожжа павінны малоць фальсіфікатары?"

Мы навучыліся ўзвялічваць то адно, то другое. А з цягам часу і абвяргаць, калі паступіць такая каманда. А вось без каманды — як гэта можна?! А калі паспрабаваць? Ды яшчэ звярнуць увагу на падзеі, якія вырашалі і вырашаюць наш агульны лёс? І я паспрабую задаць адно здрадлівае пытанне: "Што мы сёння ведаем пра тых людзей, без якіх не было б нашай дзяржаўнасці — перш за ўсё пра братоў Луцкевічаў?" Амаль нічога. Нават не сабралі публіцыстычную спадчыну Антона Луцкевіча. Не паклапаціліся пра напісанне біяграфічных нарысаў стваральнікаў і найбольш актыўных дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады.

Знайдзіце ў Мінску вуліцу, плошчу, завод, інстытут ці хаця б школу або бібліятэку імя братоў Луцкевічаў. Няма. Затое ж наша сталіца проста такі засмечана (кажучы найбольш далікатна) такімі прозвішчамі, як Мяснікоў, Кнорын, Ландэр, Берсан, Куйбышаў, Арджанікідзе, Калінін, які павінен несці перад гісторыяй поўную адказнасць за ўсе сталінскія злачынствы, і г. д. А вось згадкі пра братоў Луцкевічаў або, скажам, пра Алеся Гаруна на карце Мінска не знойдзеце. А між тым без партыі Беларуская сацыялістычная грамада ці дасягнула б такога размаху нацыянальнае адраджэнне? Ці магчыма было б скліканне Усебеларускага кангрэса ў канцы снежня 1917 года і абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918-га? А без БНР ці ператварылася б Заходняя вобласць у Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь і затым у БССР? А без існавання БССР ці з'явілася б на карце Еўропы Рэспубліка Беларусь?

Дык ці ёсць у нашай шматпакутнай гісторыі падзеі і людзі, якіх мы не павінны былі б забываць? І ці не настала пара кожнаму адмерваць па яго заслугах рэальных, а не ўяўных?

У тым ліку і Канстанціну Каліноўскаму. Пішу "Канстанціну", бо я не ўпэўнены, што сам ён хоць калі-небудзь чуў такое імя, як "Кастусь". Праўда, сёння можна пачуць, што "Кастусь" — гэта адна з форм імя "Канстанцін". Так то яно так. Але зірнем на тую справу з іншага боку. Замест імя "Іван" людзі карыстаюцца такімі формамі, як "Яська", "Янка", "Ванька". А ці маем мы права пісаць "Ванька-гаспадар з-пад Вільні"? А што было б, калі б хтосьці паспрабаваў увесці ва ўжытак такую норму, як "Ванька Купала" замест "Янка Купала"? А можа паспрабаваць? Сустракаў жа я недзе такую форму, як Кастусь Астрожскі — і ніхто, здаецца, не рэагаваў.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 40—42.**

ВОДГУЛЛЕ

# НЕ НАВЯЗВАЙЦЕ СВАЕ ДУМКІ

Атрымаўшы 32-гі нумар "Голасу Радзімы" за 7 жніўня г. г., я без усялякага здзіўлення прачытаў "Зварот да Прэзідэнта, парламента, народа Рэспублікі Беларусь", складзены па ініцыятыве пэўных асоб з Цірaспаля (Г. Лапацьевай) і Харкава (В. Самойленкі), якія выступалі на II з'ездзе беларусаў свету ў ліпені ў Мінску.

Гэтыя прамоўцы і там мяне не здзівілі, хоць бачыў і слухаў я іх упершыню. Калі іншыя прамоўцы — і з ліку маіх даўніх знаёмых па працы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", і новыя сябры згуртавання — распавядалі пра рэальныя справы сваіх беларускіх гуртоў, пра іхняе дбанне аб захоўванні беларускай культуры ў розных мясцінах замежжа Беларусі, пра святы, спевы, выставы, канцэрты, навуковыя мерапрыемствы, што яны ладзяць на карысць беларушчыны, дык ад удзельнікаў з'езда з Самавызначанай Прыднястроўскай Рэспублікі і Харкава нічога падобнага не было пачута. Адны толькі знаёмыя з савецкіх часоў лозунгі і заклікі. Тое, што яны казалі з трыбуны, было звычайнай камуністычнай агітацыяй, спробай палітызаваць працу з'езда, якая была прысвечана культуры. Звычайная агітацыя з бяздоказнымі абвінавачваннямі ў адрас, з пункту погляду прамоўцаў, нібыта "поўнасцю скампраметаваўшага сябе аб'яднання "Бацькаўшчына", якое адлюстроўвае думку нязначнай часткі нашага народа" (радкі ўзятыя са звароту сп. Лапацьевай і Самойленкі).

Думку "**вашага**" народа, спадары Лапацьева і Самойленка, "Бацькаўшчына" (у тым ліку і тое беларускае таварыства, у якое я ўваходжу і якое з'яўляецца філіяй "Бацькаўшчыны") не адлюстроўвае — і вельмі добра! Думку "**вашага**" народа, гэта значыць, вас саміх, адлюстроўваеце, вядома, **вы адны**, паколькі вас не цікавіць тое, што цікавіць філіі "Бацькаўшчыны" — выгасанне беларускай мовы і культуры на Радзіме, знікненне беларускіх школ нават у Мінску (як гэта было ў тыя савецкія часы, аб якіх вы адно і сумуеце, спробы адабраць у Беларускага ліцэя і Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Мінску іхнія будынкі і шмат чаго яшчэ.

Вы сумуеце аб страце сваёй "Вялікай Радзімы", бо вы **яе** дзеці, і што вам наша радзіма Беларусь? Вы дбаеце аб уладкаванні "народнай дэмакратыі" на Беларусі, а менавіта гэтая народная дэмакратыя зарэкамендавала сябе ва Усходняй Еўропе ў канцы 1940-х — 1950-я гады чырвоным тэрорам, галечай народа, заканамерным усталяваннем таталітарызму і, як вынік, народнымі выступамі супраць яе ў ГДР, Польшчы і Венгрыі. І ўвогуле, як і праўда, дэмакратыя ёсць адна. Яна альбо ёсць, альбо яе няма. Яна не патрабуе ніякіх дапаўняючых акрэсленняў, так, як яе акрэсліў калісьці Арыстоцель. А ўсе астатнія дадаткі да гэтага слова — "народная", "сацыялістычная" — гэта звычайны падман.

Па-паклёпніцку памянёныя асобы абвінавачваюць кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" богведама ў чым. Але вас сталыя сябры "Бацькаўшчыны" ўпершыню пабачылі. А вось кіраўнікоў "Бацькаўшчыны" — Радзіма Гарэцкага і Ганну Сурмач добра ведаюць усе, каго цікавіць будучыня роднай культуры і мовы, а не адраджэнне Савецкай імперыі. І ведаюць, дзякуючы іхняму дбанню аб захаванні беларускай прысутнасці ў свеце.

Не выпадкова з'езд адобрыў дзейнасць кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету, пакінуўшы нападкі асобаў з Цірaспаля і Харкава па-за межамі сваёй увагі і рашэнняў.

Памянёныя асобы спрабуюць уцягнуць культурнае, непалітычнае аб'яднанне беларусаў свету ў рэчышча палітыкі, але гэта не адпавядае палажэнням статута "Бацькаўшчыны".

Амаль усіх, хто выступаў на з'ездзе, турбавала цяжкае становішча культурнага і моўнага аднаўлення на Беларусі. Толькі аўтараў "Звароту" гэта не кранула. Яны прадэманстравалі сваю абыякавасць да роднай мовы нават у сваіх выступах на з'ездзе. Аніводнага беларускага слова ад іх там не прагучала, а харкаўскі прадстаўнік Самойленка нават здолеў (пераблытаўшы аўдыторыю?) перакруціць дарагое кожнаму дэлегату слова "Бацькаўшчына" ва ўкраінскую "Бацьківщину"!

Што ж, аўтары "Звароту" не першыя. Іхнімі папярэднікамі па незацікаўленасці ў беларускім слове і культуры былі і "западнорусы", і іхнія нашчадкі, што, пачынаючы з 30-х гадоў, грэбавалі роднай мовай.

Кожны мае права на сваю думку. Але не варта вам, спадары Лапацьева і Самойленка, навязваць свае думкі тым, хто ў дыяспары шмат часу працуе для адраджэння беларускіх мовы і культуры, а не кіруецца замшэлымі лозунгамі вяртання ў тое грамадства, у якім і адбыўся занямад гэтай мовы і культуры.

Рабіце сваю справу, ствараіце ваша "сапраўды народнае Сусветнае таварыства беларусаў узамен "Бацькаўшчыны", як вы пішаце. Але **якога** народа таварыствам яно будзе, мяркуючы па вашых выказваннях, інтарэсы якога народа адлюстроўваць? Не ўцягвайце толькі туды тых беларусаў, якім іхняя духоўная спадчына, што засталася ад продкаў, дарагая, а не рэстаўрацыя колішняй Савецкай імперыі, як вам.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ, старшыня рады Беларускага грамадскага культурнага таварыства ў Пецярбургу, член Міжнароднага ПЭН-клуба, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

*СНІЛІСЯ СНЫ АБ БЕЛАРУСІ...*

# БЕРАЖЫЦЕ ТАЛЕНАВІТЫХ!

Лёс нацыянальна свядомых беларускіх дзеячаў, якія дамагаліся нацыянальнай незалежнасці Беларусі, быў вельмі жорсткі і найчасцей драматычны. Драматычны ён стаўся і для іхніх нашчадкаў. Найвышэйшая драма — змушанае пазбаўленне іх права жыць на спрадвечнай бацькоўскай зямлі. Юрка Лёсік — старэйшы ўнук Ядвігіна Ш., сын Ванды Лявіцкай і Язэпа Лёсіка, гэтак жа, як і ягоныя сёстры Люцыя і Алеся, не выключэнне з гэтага жорсткага правіла, прыдуманага езуітамі бальшавіцкай ідэалогіі.

Нарадзіўся Юрка Лёсік у 1919 годзе ў Мінску. Рос і гадаваўся ў чыста беларускай сям'і. Маці — пісьменніца і выхаваўца з нашаніўскай пары. Бацька — Язэп Лёсік — вядомы грамадскі дзеяч, акадэмік, колішні ссыльны, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі. Такія ж былі славутыя і іхнія сваякі і суседзі.

Пачатковыя Юркавы гады прайшлі ў так званым Старажоўскім тупіку. Тут жа жылі і Міцкевічы — сям'я Якуба Коласа. Юрка Лёсік гадаваўся разам з Коласавымі дзецьмі. І жылі яны ў дамках аднаго і таго ж гаспадара пана Русецкага, і гулялі ў адным двары. Хадзілі ў адзін і той жа садзік-дзяцінец, якія тады на Беларусі называлі ачагамі. Выхоўвалі іх адны і тыя ж выхаваўцы. Адной з іх была славутая Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Не разышліся шляхі Лёсікаў і Міцкевічаў і пасля таго, як кожная з гэтых сем'яў набыла свае сядзібы, свае дамы. Міцкевічы пасяліліся ў пабудаваным дамку паблізу колішняга Губернатарскага саду — тады яго называлі паркам Прафінтэрна, зараз гэта парк Максіма Горкага. Побач, на колішняй Шпітальнай вуліцы, пасяліліся і Лёсікі, і сяброўства іхніх сем'яў прыцягвалася. Рос і гадаваўся разам з гэтымі сем'ямі і Кастусь Самахвал. Юрка Лёсік быў найлепшым ягоным сябрам. Пра юнацкія захапленні Юркі Лёсіка Кастусь Самахвал згадвае:

— З школьных гадоў Юрка Лёсік захапляўся электрыкай. Ягоныя гульні і забавы былі такія ж... Недалёка ад іхняй сядзібы быў і ёсць вайсковы гарадок. Дык Юрка назбіраў там розных правадоў, электраролікаў і ўвесь плот у сваім двары аблытваў праводкай. Здавалася, мірны час і маленства павінна было быць такім жа мірным, бясхмарным. Але ў краіне пачаліся рэпрэсіі. Сям'я Лёсікаў патрапіла пад іх ці не самая першая. За ёю замацавалася азначэнне "нацдэмы". Унуку Ядвігіна Ш. даводзілася чуць яго ледзь не кожны дзень. Як толькі што, дык "нацдэм" ды "нацдэм". Нават ягоныя лепшыя сябры, не ўсведамляючы, які чыняць яму боль, часта казалі: "Юрка, дык ты ж нацдэм!.." Часам гэтым крыўдным словам замянялі яму і імя. Казалі: "Нацдэм прыйшоў!" З-за гэтага Юрка



**НА ЗДЫМКУ: Юрка ЛЁСІК у 1939 годзе, г. Масква.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*З ЛАТВІІ*

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

*НА АДКРЫЦЦІ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ НА БУДЫНКУ, ДЗЕ ПРАЦАВАЛА*

## *БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ*

**1**

**Прыйшлі на Варшавас, 16.**
**Прайшло колькі летаў і зім,**
**Калі беларушчыне**
**наша**
**Гімназія**
**пела свой гімн.**

**Прыйшлі на Варшавас, 16,**
**Нібы да Паклоннай гары,**
**Што стала Галгофаю нашай.**
**Паходняю свечка гарыць.**

**І слаўныя прадзеды нашы,**
**Святыя ўсе нашы дзяды**
**Здалёк на Варшавас, 16,**
**Прыйшлі сёння з намі сюды.**

**2**

**Асветнікі! Вучымся ў вас**
**Мінуўшчыны скарб шанаваць.**
**Дар прашчураў — родную мову —**
**Каб з прышласцю весці размову,**

**Каб лепей жыла Беларусь.**
**І нашы нашчадкі сагрэты**
**Любоўю Айчыны не раз —**
**Як вучні, ля дошкі вось гэтай...**

# ЮБІЛЕЙ

У 1921 годзе дзякуючы намаганням беларускага культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына" ў Латгаліі адкрываюцца беларускія школы, арганізуюцца летнія беларускія настаўніцкія курсы. Пры падтрымцы латышскага паэта Яна Райніса 22 верасня таго ж года пры Міністэрстве асветы Латвійскай Рэспублікі ствараецца беларускі аддзел як вышэйшая ўстанова для кіравання беларускімі школамі.

18 верасня 1922 года пачала работу Даўгаўпілская дзяржаўная беларуская школа. Яе арганізатарам быў прызначаны грамадзянін Літвы, па нацыянальнасці беларус — Іван Краскоўскі, да таго інспектар і дырэктар віленскай сярэдняй школы. 20 ліпеня 1922 года І. Краскоўскі заключыў дагавор аб арэндзе памяшкання ў Даўгаўпілсе на вуліцы Варшавас, 16.

Ужо ў першы год у школе быў створаны школьны хор, гурткі беларускіх скаўтаў, драматычны, мастацкі і спартыўны. У далейшым тут пачынаюць дзейнічаць літаратурна-гістарычны, мастацкі, фатаграфічны, радыётэхнічны гурткі, балалаечны аркестр. Працавала майстэрня, дзе выхаванцы атрымлівалі як тэарэтычныя веды, так і практычны вопыт па сталярнай, слясарнай і кравецкай спецыяльнасцях. З красавіка 1925 года дзяржаўная зямельная інспекцыя аддала ў карыстанне гімназіі зямельны ўчастак плошчай 16 гектараў у Калкунскай воласці, дзе навучэнцы маглі развіваць свае земляробчыя навыкі. З сакавіка 1926 года выдаецца навукова-літаратурны і педагагічны часопіс "Школьная праца" ("Школьный труд") на беларускай мове. Вучні збіралі фальклор, выступалі з лекцыямі і канцэртамі, ставілі спектаклі па п'есах Я. Купалы, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца.

Мовай выкладання ў гімназіі была беларуская. Вывучаліся таксама латышская, руская, лацінская і нямецкая мовы, Закон Божы, гісторыя, матэматыка, фізіка, хімія з мінералогіяй, геаграфія, геалогія і касмаграфія, псіхалогія і логіка. Надавалася вялікая ўвага фізічнаму выхаванню і ваеннаму абучэнню.

У гімназіі працавала школьная рада, у склад якой уваходзілі бацькі і настаўнікі. У яе кампетэнцыі былі пытанні рамонту памяшканняў гімназіі, а таксама матэрыяльнай дапамогі малазабяспечаным гімназістам.

Дырэктарамі гімназіі былі Іван Краскоўскі (1922—1925), ураджэнец г. Вільнюса, які скончыў факультэт гісторыі і філалогіі Пецярбургскага універсітэта, Сяргей Сахараў, ураджэнец г. Полацка Віцебскай губерні, які меў вышэйшую юрыдычную адукацыю, Язэп (Іосіф) Цаманіс (1932—1934), ураджэнец Бебранскай воласці, які скончыў Пецярбургскую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію, Яніс Пloніс (1934—1935), ураджэнец Ліксненскай воласці, які скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю і рымска-каталіцкі факультэт тэалогіі Латвійскага універсітэта, выкладчыкамі — В. Пігулеўскі, П. Мядзёлка-Грыб, А. Якубецкі, І. Гайлевіч, І. Камісараў, А. Барткевіч.

У гімназіі вучыліся пісьменнікі А. Бартуль, П. Сакол (Масальскі), В. Казлоўская, М. Талерка, Э. Вайвадзіш, В. Вальтар, мастакі П. Міраловіч, М. Калінін, оперная спявачка Н. Нікалаева-Комісар, рэжысёр І. Камаржынскі, археолаг Л. Краскоўская.

Па распараджэнню міністра адукацыі ад 27 жніўня 1935 года даўгаўпілскія дзяржаўныя беларуская, польская і руская гімназіі былі аб'яднаны ў адну пад назвай II Даўгаўпілская дзяржаўная гімназія.

**Падрыхтаваў Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**



**На цэнтральнай сядзібе калгаса імя Дзімітрава Драгічынскага раёна — у вёсцы Заверш'е рэканструявалі клуб. У выніку ён расшырыўся — дабавілася яшчэ некалькі памяшканняў. Цяпер тут ёсць гасцёўня, танцавальная зала, пакой сялянскага быту. А галоўнае — па арыгінальнаму праекту пабудавана прасторная канцэртная зала.**

**Будаўніцтва вялося гаспадарчым спосабам. Да 500 мільёнаў рублёў бюджэтных асігнаванняў калгас дабавіў свае 1,5 мільярда рублёў. Так сяльчане атрымалі цудоўны культурны цэнтр, інтэр'ер якога афарміла мастацкая майстэрня раённага аддзела культуры.**

**НА ЗДЫМКУ: новая канцэртная зала.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**







# ПАМІЖ РОДНАЙ КРАСЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Захацелася спусціцца з гары, як тая вунь маладая пара, — са смехам, подбегам, падаючы і ўстаючы, ды раствaрыцца ў той прыгажосці сам-насам са сваімі думамі і пачуццямі. Гэта мы зрабілі назаўтра. Палюбаваліся прывабнай мясцінай, сфатаграфавалі — можаце і вы зірнуць на яе.

А пакуль мы на Замкавай гары. Гэта цэнтр старажытнага Навагрудка, тут была рэзідэнцыя князёў. Замак, помнік дойлідства X—XVI стагоддзяў, узведзены на месцы гарадзішча. Ён неаднойчы разбураўся і аднаўляўся.

Прыгадваюцца, калі глядзіш на рэшткі замка, штрыхі гісторыі Навагрудка. У Сафійскім першым летапісе пад 1044 год значыцца: "Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложил Новогород и сделал и". Яраслаў Мудры зрабіў мудра. Горад стаў апорным пунктам у барацьбе з яцвягамі за іх землі, цэнтрам славянскай каланізацыі.

Пасля аслаблення Полацкага княства Новагародак узяў на сябе ролю "збіральніка" беларускіх земляў. Асабліва ў гэтым вызначыўся Міндоўг. Рознымі сродкамі падпарадкаваў сабе князёў літоўскіх земляў. У 1253 годзе прыняў тытул караля, каранаваўся ў Новагародку, у сваёй рэзідэнцыі.

У гэты час умацоўвалася эканоміка Новагародка. Вядучай галіной стала апрацоўка каляровых і каштоўных металаў. Выплаўлялася жалеза, выраблялiся ганчарныя, кастарэзныя, іншыя прадметы. На высокім узроўні вялося земляробства.

"У выніку развіцця рамёстваў і гандлю і наяўнасці густога насельніцтва, — робіць выснову гісторык Мікола Ермаловіч, — на параўнальна невялікай тэрыторыі Новагародскай зямлі было шмат гарадоў: апроч сталічнага — Слонім, Ваўкавыск, Гарадзен (Гродна), Здзітаў, Зэльва, Свіслач і іншыя".

Выгаднае геаграфічнае становішча таксама спрыяла ўмацаванню княства. Новагародак аб'яднаў вакол сябе Полацкае, Турава-Пінскае і Смаленскае княствы. Вялікае Княства Літоўскае, якое ўзнікла ў XIII—XIV стагоддзях, пашырала свае межы і шляхам прамых заваёў, і шляхам заключэння палітычных саюзаў.

Рос Новагародак, будаваўся. Царква-крэпасць узведзена ў 1517 годзе, касцёл — у пачатку XV стагоддзя. У XVII стагоддзі з'яўляюцца дамініканскі і францысканскі манастыры, сінагога. Ад гандлёвага цэнтра часткова захаваліся крамы мінулага стагоддзя.

Росквіту горада спрыяла тое, што ў 1511 годзе ён атрымаў магдэбургскае права.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795 год) Новагародак адышоў пад уладу Расійскай імперыі.

Спусціўшыся з Замкавай гары, мы доўга блукалі па горадзе. У цэнтры яго засталося некалькі даўніх пабудоў. Вось гандлёвыя рады. Невысокія прысадзістыя домікі стаяць шчыльна — "локаць у локаць". У іх і цяпер месцяцца розныя крамы. Будынкі маюць прыемны выгляд.

Касцёл ад часу было зусім занядужаў. І дах абсыпаўся, і сцены аблезлі. За апошнія гады з дапамогай вернікаў ён капітальна адрамантаваны. У добрым стане і касцёл, у якім ахрышчаны Адам Міцкевіч.

А вось Дом-музей сусветна вядомага польскага паэта. Стаіць ён на месцы дома бацькоў Адама, тут жа бронзавы бюст паэта. Міцкевіч нарадзіўся ў вёсцы Завоссе на Навагрудчыне (па іншых звестках, у Навагрудку). Вельмі любіў Беларусь, творы яго грунтуюцца на жыцці беларусаў, а беларускую мову лічыў "самай гарманічнай і з усіх моў найменш зменёнай". У знакамітым "Пане Тадэвушы" пісаў:

**О ты, заступніца прачыстая**
**над намі,**
**Чый цудатворны лік**
**у Чанстахове ў храме,**
**І ў Вострай Браме свеціцца**
**пры набажэнстве,**
**І ў Навагрудку замкавым!**
**...Так і цяпер вярні ты нас усіх**
**з выгнання!**
**З'яві свой цуд, каб зноў**
**сустрэцца з родным краем,**
**Дазволь душы маёй,**
**ахопленай адчаем,**
**Пераляцець туды, дзе поясам**
**блакіту**
**Над Нёманам лясныя ўзгоркі**
**апавіты,**
**Дзе прозеленню жыта ў полі**
**серабрыцца**
**І залаціцца поўным коласам**
**пшаніца,**
**Дзе ў ярыне свірэпа —**
**россыпам бурштыну,**
**На ўзмежках дзяцельнік —**
**румянамі дзяўчыны,**
**А ўпрокідку ў палетках,**
**быццам вартаўнічкі,**
**Стаяць і ціха шэпчуцца**
**ігрушы-дзічкі.**

Навагрудчына дала шмат славутых людзей. Адзін з іх Барыс Кіт, выдатны спецыяліст у галіне касманаўтыкі...

Пасля дожджыка горад пасвяжэў. Людзі зноў выйшлі на вуліцы — хто ў магазіны, а хто проста прайсціся надвячоркам. Пераважна — моладзь. Гэта натуральна: у Навагрудку два тэхнікумы — сельскагаспадарчы і гандлёва-эканамічны, некалькі вучылішчаў, спецыялізаваных і агульнаадукацыйных сярэдніх школ. Для моладзі, як і для ўсіх жыхароў, створаны спрыяльныя ўмовы для адпачынку. Ёсць розныя культурна-асветныя ўстановы: Дамы культуры, бібліятэкі, кінатэатры, спартыўныя пляцоўкі, іншыя падобныя ўстановы.

Навагрудчане ўмеюць святкаваць. Асабліва ўдалося свята ў гонар 950-годдзя горада, у якім прынялі ўдзел і замежныя госці. Тэатралізаваныя шэсці, канцэрты, карагоды, танцы — было весела, прыгожа.

І, вядома, як скрозь на Беларусі, тут працавітыя людзі. Яны выпускаюць шмат відаў прадукцыі: мяса-каўбасныя вырабы, сухое і абястлушчанае малако, кансервы з агародніны, муку і крупы, піва, напоі, хлеб, прадукцыю з птушкі, адзенне, абутак, газавую апаратуру, будаўнічыя матэрыялы, зрубы для дамоў і шмат што яшчэ. Гэтая прадукцыя спажываецца ў Навагрудку, у іншых гарадах Беларусі, экспартуецца ў розныя краіны.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: на камені — герб Навагрудка; руіны старажытнага замка; пабудовы "драўлянага" Навагрудка; уезд на галоўную плошчу горада; Нікольская царква.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**






*ВІЦЕБСК — РАДЗІМА ШАГАЛА І КАЛЫСКА МАСТАЦКАГА АВАНГАРДА*

# ПАДАРОЖЖА Ў МЕТАФІЗІЧНЫ ГОРАД

На першы погляд, у Віцебску зараз вельмі мала што нагадвае пра вядомых сёння ўсяму свету мастакоў рускага авангарда, якія тут працавалі на пачатку 20-х гадоў. Калі ехаць з Мінска па шырокай шашы, то праязджаеш міма аднастайных падобных адзін да аднаго блочных шматпавярховых дамоў, якія вызначаюць выгляд многіх гарадоў былога Савецкага Саюза. І тут, як каля многіх іншых баявых мясцін другой сусветнай вайны, шматлікія манументальныя помнікі напамінаюць, што салдаты нямецкага вермахта амаль поўнасцю знішчылі Віцебск, дзе загінула каля 100 000 яго жыхароў, большасць з якіх — яўрэі. Больш за 100 год таму назад ужо Напалеон, які ў ліпені 1812 года выбраў Віцебск прамежкавым прыпынкам у сваім рускім паходзе, прычыніў гораду вялікія пакуты і страты.

А напрыканцы апошняга стагоддзя чыгунка, якая была пракладзена паміж Санкт-Пецярбургам і Адэсай, а таксама Рыгай і Арлом, ужо да першай сусветнай вайны зрабіла Віцебск індустрыяльным горадам. Але з прычыны таго, што ў горадзе былі размешчаны толькі дробныя прадпрыемствы, індустрыяльнае развіццё тут да канца другой сусветнай вайны было ніжэйшае за сярэдні савецкі ўзровень. І толькі ў 50-я і 60-я гады пабудаваны буйныя прамысловыя прадпрыемствы, сярод іх абутковая фабрыка "Чырвоны Кастрычнік", якая разам з нямецкім акцыянерным таварыствам "Саламандэр" заснавалі ў 1988 годзе першае сумеснае прадпрыемства ў былым Савецкім Саюзе.

Але знакамітым стаў Віцебск перш за ўсё дзякуючы мастаку Марку Шагалу, які нарадзіўся 7 ліпеня 1887 года ў прыгарадзе Віцебска Пескавацік і быў старэйшым з васьмі дзяцей, тут атрымаў першыя ўрокі па мастацтву ў правінцыяльных партрэтыстаў і салоннага мастака Егуда Пэна. Марк Шагал жыў да 1906 года ў Віцебску і пасля заснавання ім у 1918 годзе Акадэміі мастацтваў больш за два гады прабыў там. Але нават гады навучання ў Санкт-Пецярбургу і Парыжы перарываліся больш доўгімі ці кароткімі прамежкамі часу знаходжання яго ў Віцебску. У час аднаго з такіх наведванняў Шагал пазнаёміўся са сваёй будучай першаю жонкаю Бэлай Розенфельд, з якой ён шчасліва жыў да яе нечаканай трагічнай смерці 2 верасня 1944 года і якую ён увекавечыў на шматлікіх сваіх палотнах.

Віцебск меў надзвычай вялікае значэнне і для мастацкай творчасці Шагала. У 1897 годзе Віцебск пры агульнай колькасці насельніцтва 65 371 чалавек налічваў 39 520 яўрэяў. Большасць з іх была асімілявана і русіфікавана. Як у Галіцыі, так і ў многіх частках Польшчы быў шырока распаўсюджаны папулярны сярод бяднейшых слаёў яўрэйства містычны хасідызм, які ў супрацьлегласць рабініцкай вучонасці, розуму і логіцы яўрэяў-талмудзістаў падкрэсліваў значэнне музыкі, танца і пачуццяў. Гэты яўрэйскі Віцебск адлюстраваны на многіх карцінах Шагала і нярэдка адрозніваецца ад яго пазнейшай радзімы — Парыжа.

Сёння Віцебск — абласны цэнтр і, налічваючы амаль 373 000 жыхароў, трэці па велічыні горад Беларусі. Хаця цэны тут ніжэйшыя, чым у сталічным Мінску, аднак штодзённае жыццё і тут ахоплена інфляцыяй і страхам перад беспрацоўем. І чым мацней ціснуць напружанасць і нягоды сучаснасці, тым больш знікае цікавасць чалавека да гісторыі свайго горада. Бо ці знае цяпер хто-небудзь з жыхароў, дзе былы дом Шагала ці ранейшая Акадэмія мастацтваў? Нават у самай вялікай кніжнай краме горада, непасрэдна на цэнтральнай плошчы Перамогі, замест кніг і паштовак Шагала і пра Шагала, Казіміра Малевіча ці Эль Лісіцкага знойдзеш перш за ўсё амерыканскія крымінальныя раманы і рэкламу пра Арнольда Шварцэнегера і іншых зорных фільмаў і попзорак.

Але ўжо калі прайсці якую сотню метраў па галоўнай вуліцы, якая ўсё яшчэ называецца вуліцай Леніна, і звярнуць увагу на невялікі вуглавы дом з фасадам, размаляваным у стылі канструктывізму, то адчуеш,

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

ВЫСТАВЫ

# «САЛАМЯНАЕ ДЗІВА»





**Так назвалі першае свята-конкурс саломапляцення яго арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і беларускі Саюз майстроў народнай творчасці.**

**Майстры з усіх абласцей Беларусі сабраліся ў мінскім Палацы культуры ветэранаў, каб паказаць магчымасці простага і даступнага ўсім прыроднага матэрыялу — саломкі, прадэманстраваць сваё майстэрства, абмяняцца вопытам.**

**Цікавасць да свята была вялікая, гасцей было шмат. Яны з задавальненнем набывалі вырабы, якія падабаліся ім, слухалі народныя мелодыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыў свята старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Яўген САХУТА, перарэзаўшы сярпом саламяны сноп; у руках майстра — саламяны цуд; залацісты конь — адзін з экспанатаў выставы.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



# ПАДАРОЖЖА Ў МЕТАФІЗІЧНЫ ГОРАД

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

што ты трапіў у 20-я гады. "Дзіўны правінцыйны горад", — пісаў рускі кінарэжысёр Сяргей Эйзенштэйн пра Віцебск у сваіх успамінах пра Казіміра Малевіча. — Як многія гарады Заходняга краю, пабудаваны ён з чырвонай цэглы. Гэты горад асабліва дзіўны. На галоўных вуліцах чырвоная цэгла пакрыта белай фарбай. А па белым фоне разыходзяцца зялёныя кругі, аранжавыя квадраты, блакітныя простакутнікі. Гэта Віцебск 1920 года. На яго сценах пазнаецца рука Казіміра Малевіча. Перад вачамі з'яўляюцца аранжавыя кругі, чырвоныя квадраты, зялёныя трапецыі. Супрэматычнае канфеці, што ахоплівае вуліцы горада, які ўражвае.

Сённяшні фасад у стылі канструктывізму, зроблены толькі некалькі гадоў таму назад членамі мастацкай групы "Квадрат" па эскізе Казіміра Малевіча, ні ў якім выпадку не арыгінал 20-х гадоў. Мастак жыў у Віцебску з верасня 1919 па 1922 год і як паслядоўнік Марка Шагала кіраваў маладой Акадэміяй мастацтваў. У гэты час узніклі не толькі яго шматлікія архітэктурныя і горадабудаўнічыя праекты і шмат яго супрэматычных карцін, але і яго выдадзеная ў 1920 годзе брашура "Супрэматызм", у якой Малевіч выклаў тэарэтычныя асновы заснаванага ім мастацкага напрамку. Адначасова Малевіч стаў прыцягальным для многіх мастакоў, такіх, як Вера Ермалаева, якая змайстравала эскізы дэкарацый і касцюмаў для тэатра, Мікалай Суэцін і Эль Лісіцкі, якія працавалі ў Віцебску ў 1919 і 1920 гадах.

У зялёным двухпавярховым будынку былой Акадэміі мастацтваў на вуліцы "Праўды", № 5, сёння размешчаны вылічальны цэнтр філіяла Міністэрства будаўніцтва. Ні адна мемарыяльная дошка не напамінае пра тое, што тут працавалі многія з самых выдатных мастакоў XX стагоддзя. І хаця віцебскі перыяд Малевіча і Лісіцкага быў надзвычай плённым, аднак у горадзе не існуе ні адной намаляванай імі тут карціны ці архітэктурнага эскіза. І толькі да 110-й гадавіны з дня нараджэння Малевіча была арганізавана ў Віцебску адзіная да гэтага часу выстава з фатаграфіямі і дакументамі.

Ды і Марк Шагал не пакінуў свайму роднаму гораду ні адной карціны. А ў "Мастацкім цэнтры Марка Шагала", створаным некалькі гадоў таму назад, знаходзіцца ўсяго чатыры літаграфіі, падараваныя музею нямецкім прыватным аматарам мастацтва. А таму маюцца там толькі рэпрадукцыі твораў, якія былі напісаны ў перыяд з 1906 па 1922 год — падарункі з мастацкай галерэі з Франкфурта-на-Майне. У 1991 годзе ў час першых Дзён Шагала, якія з таго часу праводзяцца штогод, былі паказаны шматлікія арыгіналы, сярод іх і дэкарацыі для яўрэйскага тэатра ў Маскве.

І калі былы дом сям'і Розенфельдаў, які быў размешчаны недалёка ад кафедральнага сабора, быў знесены пасля вайны, то дом сям'і Шагала па вуліцы Пакроўская, № 11, недалёка ад Ільінскай царквы і вакзала, на правым беразе ракі Дзвіны, яшчэ захаваўся. У ліпені 1992 года гісторык Аркадзь Падліпскі ў гэтым маленькім аднапавярховым будынку абсталяваў адзін з самых незвычайных музеяў свету. Пасля таго гарадскі савет Віцебска дом нават купіў, каб яго рэканструяваць у яго першапачатковым выглядзе і ў ім адкрыць вялікі музей. Аднак ён не ў стане прапанаваць новую кватэру сям'і, што жыла многія гады ў гэтым доме. Толькі ў адным пакоі, што з боку вуліцы, выстаўлены фатаграфіі, рэпрадукцыі вядомых карцін і іншыя дакументы, усе іншыя пакоі дома заняты яшчэ жыхарамі. Кожны адчуе сябе, калі ўвойдзе з левага боку праз маленькую драўляную камору і ўспрыме пах салянкі і смажанай рыбы, пэўным чынам перанесеным у атмасферу, што існавала на пераломе стагоддзяў.

Тады са сваімі неасфальтаванымі вуліцамі, у залежнасці ад надвор'я пакрытымі ці то граззю, ці пылам, меў Віцебск яшчэ моцны местачковы характар. Яўрэйскія гандляры вялі актыўны гандаль з Рыгай і з замежнымі краінамі ці прадавалі свае тавары ў магазінах вялікіх рускіх гарадоў. Было тут многа сінагог, маленькіх дамоў і школа рабінаў ды яшчэ яўрэйская бальніца.

Сёння ўжо толькі ва ўспамінах існуе сярэдневяковы квартал, у якім вырас Марк Шагал. "Драўляныя дамы Віцебска, — так пісаў біёграф Шагала Сідней Аляксандэр, — былі настолькі знішчаны, што сталі прыдатнымі толькі для таго, каб падтрымліваць працэс гарэння ў спальваючых печах Трэблінкі. Іх барадатыя, пілікаючыя на скрыпках яўрэі, што сядзяць на дахах ці лунаюць над горадам, акружным шляхам адляцелі ў рай, мінуючы пекла". Пасля таго, як ён перасяліўся ў 1923 годзе ў Францыю, Шагал ніколі больш не наведваў Віцебск, нават у чэрвені 1973 года падчас свайго тыднёвага падарожжа ў СССР. "Гэты мудры стары чалавек, — так пісаў пра яго беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, — разумеў, што ён не зможа больш знайсці таго, чаго ўжо больш не існавала. Пасляваенны Віцебск ужо поўнасцю іншы горад, і ён не хацеў знішчаць дарагія яму ўспаміны".

Таму падарожжа ў Віцебск — гэта таксама падарожжа ў метафізічны горад. Як на карцінах Шагала, які ніколі не маляваў толькі тое, што бачыў, але заўсёды таксама і тое, што адчуваў, многае ў Віцебску непасрэдна нельга ўбачыць. Нават для тых, хто прытрымліваецца іншага погляду, гэты горад таксама і сёння яшчэ захоўвае сюррэальныя нечаканасці.

**Дзірка ХАЛЬТАРУГЭ.**

*Пераклаў з нямецкай мовы Уладзімір САКАЛОЎСКІ.*

# ЮБІЛЕЙ ПІНСКА Ў ФІЛАТЭЛІІ

Старажытны Пінск адзначыў сваё 900-годдзе. Слаўны юбілей не забыты беларускай поштай. Мы ўжо расказвалі аб канверце з адлюстраваннем касцёла і былога манастыра францысканцаў, выпушчанага яшчэ ў маі гэтага года да 900-годдзя горада. Канверт гэты быў выпушчаны для ўнутрырэспубліканскага карыстання. Марка канверта не мае наміналу.

Да вераснёўскіх юбілейных дзён дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла паштовую марку з адлюстраваннем пінскага калегіума езуітаў — помніка архітэктуры барока. Будынак быў узведзены ў 1648 годзе разам з касцёлам. Касцёл не захаваўся, ён быў узарваны ў 50-я гады. Пры калегіуме ў XVIII стагоддзі працавала аптэка, з 1729 года — друкарня. Сёння ў гістарычным будынку размяшчаецца адміністрацыйныя ўстановы і карцінная галерэя. На марцы змешчаны герб старажытнага Пінска — залаты лук на чырвоным полі, нададзены гораду ў студзені 1581 года. Адлюстраванне гэтага герба ёсць таксама на спецыяльным штэмпелі, якім гасілася карэспандэнцыя 13 верасня 1997 года на пошце ў Пінску. Да гашэння быў выдадзены "Белпоштай" спецыяльны канверт, малюнак якога паўтарыў малюнак канверта, выдадзенага раней. На канверце і спецштэмпелі юбілейны тэкст "Пінску 900 гадоў".

**Леў КОЛАСАЎ.**




**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1477. Падпісана да друку 20.10.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**